ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

№ 5 (1539) | Аўторак, 17 студзеня 1961 года | Цана 4 кап.

# ШЛЯХІ НАШЫ СВЕТЛЫЯ

Кожнае мерапрыемства нашай партыі, нашага народа — па-свойму знамянальнае, бо садзейнічае няспыннаму поступу наперад, памагае людзям жыць і працаваць. Але ёсць такія з'явы ў нашым грамадскім і гаспадарчым жыцці, якія іначай нельга назваць як гістарычныя, таму што яны знамянуюць сабою выдатную веху ў жыцці краіны, у камуністычным будаўніцтве.

Такой вехай з'яўляецца і студзеньскі Пленум Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Савецкага Саюза. Яшчэ задоўга да пачатку Пленума ўсе савецкія людзі гаварылі аб ім, чакалі яго. Чакалі і рыхтаваліся да яго: знаходзілі новыя рэзервы ў сельскай гаспадарцы, змагаліся з недахопамі, якія ёсць у асобных калгасах і саўгасах, у адміністратыўных і навуковых установах сельскай гаспадаркі.

У нас многа зроблена ў павышэнні культуры земляробства, у развіцці жывёлагадоўлі. Больш стала мяса, малака і іншых прадуктаў. Але ж трэба ўлічваць, што і насельніцтва ў нас расце, што каб поўнасцю задаволіць патрэбы людзей, неабходна яшчэ больш павысіць тэмпы развіцця сельскай гаспадаркі. Даўно ўжо ў савецкіх людзей наспяваюць думкі, што сельскай гаспадарцы трэба даць такую перадавую і дасканалую тэхніку, якая ёсць на нашых прадпрыемствах, будоўлях, што ў сельскай гаспадарцы трэба выкарыстоўваць такую перадавую сучасную навуку, якая праклала сабе шырокую дарогу ў многіх іншых галінах народнай гаспадаркі. І ўжо, вядома, у першую чаргу неабходна пакончыць з усялякімі праявамі дэмагогіі і хлусні ў сельскагаспадарчых справах, абавязкова дамагчыся таго, каб у нас не было зусім адсталых калгасаў і саўгасаў.

З вялікай цікавасцю ўсе савецкія людзі чытаюць і перачытваюць матэрыялы Пленума. З радасцю і гонарам даведваюцца аб тым, што Цэнтральны Камітэт КПСС, наш урад і асабіста Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў глыбока і вельмі грунтоўна займаюцца пытаннямі сельскай гаспадаркі, што перад Пленумам таварышам Хрушчовым было ўнесена многа каштоўных прапаноў па далейшаму павышэнню культуры земляробства і вытворчасці прадуктаў жывёлагадоўлі. З матэрыялаў Пленума, у прыватнасці з дакладаў таварышаў Палянскага, Падгорнага, Мазурава і іншых сакратароў ЦК нацкампартый яскрава відна, што сельская гаспадарка нашай краіны за апошнія гады дасягнула вялікіх поспехаў. Асабліва відавочны гэтыя поспехі за першыя два гады сямігодкі. Аб гэтым прыемна чытаць, радасна гэта ўсведамляць. У той жа час на Пленуме з усёй рашучасцю выкрываюцца недахопы ў развіцці сельскай гаспадаркі і намячаюцца шляхі іх ліквідацыі.

Вялікіх дасягненняў дамаглася за апошні год і наша рэспубліка. Рост прамысловай вытворчасці значна перавышае тэмпы, прадугледжаныя Дырэктывамі XXI з'езду партыі. За два гады сямігодкі, як адзначыў у сваім дакладзе таварыш К. Т. Мазураў, меркавалася павялічыць прамысловую вытворчасць на 16 працэнтаў. На самай жа справе прырост прадукцыі склаў за гэтыя гады 27 працэнтаў. Гэта перавышае ўзровень, запланаваны на трэці год сямігодкі.

Ёсць значныя поспехі і ў сельскагаспадарчай вытворчасці Беларусі. Аднак жа тэмпы яе росту яшчэ недастатковыя. Яны яшчэ пакуль што значна ніжэйшыя за тыя, што прадугледжаны сямігадовым планам.

Калі мець на ўвазе вынікі развіцця сельскай гаспадаркі ў нашай рэспубліцы за 1960 год, то яны выглядаюць так: вытворчасць мяса ў 1960 годзе ў калгасах і саўгасах узрасла ў параўнанні з 1959 годам на 12 працэнтаў, малака — на 15 працэнтаў. Пагалоўе буйнай рагатай жывёлы павялічылася на 16 працэнтаў, кароў — на 12 працэнтаў, свіней — на 7 працэнтаў. Толькі авец у нас не пабольшала, іх, на жаль, нават паменшала на чатыры працэнты. Па ўсіх катэгорыях гаспадарак пагалоўе буйнай рагатай жывёлы павялічылася за год на 5 працэнтаў, кароў — на 3,4 працэнта, свіней — на 8 працэнтаў. Колькасць жа авец зменшылася на 5 працэнтаў.

У 1960 годзе, адзначаецца ў дакладзе таварыша Мазурава, вытворчасць з разліку на 100 гектараў сельскагаспадарчых угоддзяў склала па ўсіх катэгорыях гаспадарак: мяса — 65,5 цэнтнера ў жывой вазе і 42 цэнтнеры ва ўбойнай; малака — 320 цэнтнераў. У калгасах і саўгасах атрымана на 100 гектараў сельскагаспадарчых угоддзяў: мяса — 30 цэнтнераў у жывой вазе і 18 цэнтнераў ва ўбойнай вазе і малака — 151 цэнтнер.

Беларуская рэспубліка выканала і перавыканала ў мінулым годзе план закупак прадуктаў жывёлагадоўлі.

Аднак усе мы ведаем, якія задачы тут ставіць перад намі партыя і асабіста таварыш М. С. Хрушчоў. Трэба ўвесь час настойліва дамагацца таго, каб патрэбы людзей у прадуктах харчавання, а гэтыя патрэбы што дзень, то больш узрастаюць, былі поўнасцю задаволены. «Сапраўды, ніякія поспехі ў развіцці сельскай гаспадаркі, — гаворыць у сваім дакладзе таварыш Мазураў, — народ не ацэніць, калі ў магазінах і на рынку не будзе ў дастатку мяса, малака, яек і іншых прадуктаў. Дзякуючы клопатам нашай партыі і ўрада і асабіста Мікіты Сяргеевіча Хрушчова з году ў год растуць рэальныя даходы насельніцтва, павышаецца попыт на прамысловыя тавары і прадукты харчавання. Паводле дадзеных ЦСУ, душавое спажыванне ў рабочых сем'ях рэспублікі мяса і мясных прадуктаў у параўнанні з 1953 годам амаль падвоілася і складала ў 1959 годзе 55,5 кілаграмаў; спажыванне малака і малочных прадуктаў павялічылася ў 1,5 раза і дасягнула 327 кілаграмаў. Прыкладна, у тых жа памерах расло спажыванне і ў сем'ях калгаснікаў».

За мінулы год у нас дасягнуты значна лепшыя вынікі і ў земляробстве. Працоўныя рэспублікі арганізавана правялі і завяршылі ўсе сельскагаспадарчыя работы. Вывезена на палі ўгнаенняў значна больш, чым у мінулыя гады, а дзякуючы гэтаму павысіўся ўраджай збожжавых у параўнанні з 1959 годам у сярэднім на 1,6 цэнтнераў з гектара. Валавы збор збожжа ўзрос на 18 працэнтаў. Што датычыць ільноваалакна, то яго будзе атрымана ў паўтара разы больш, чым у 1959 годзе. Ураджай бульбы вырас на 11 цэнтнераў з гектара, а валавы збор — на 13 працэнтаў.

Аднак трэба з усёй рашучасцю адзначыць, што нягледзячы на значны прырост прадукцыі земляробства за мінулы год, заданні сямігодкі па валаваму збору раду сельскагаспадарчых прадуктаў у нашай рэспубліцы не выкананы. І тут, як правільна адзначае таварыш Мазураў, галоўнай прычынай з'яўляецца тое, што ўзровень работы з кадрамі, узровень арганізатарскай і палітычнай работы ў вёсцы яшчэ далёка не адпавядае задачы крутога ўздыму сельскай гаспадаркі. «Яшчэ не ліквідавана ў нас у Беларусі, — гаворыць таварыш Мазураў, — павярхоўнае, дэкларатыўнае кіраўніцтва калгасамі і саўгасамі, алілуйства і пустазвонства. Некаторыя кіраўнікі поўныя энергіі і энтузіязму пры выпрацоўцы абавязацельстваў, але затым не вядуць неабходнай арганізатарскай работы па іх выкананню, безадказна адносяцца да сваіх уласных абяцанняў, а часам становяцца на непартыйны, злачынны шлях ашуканства і падману партыі і дзяржавы. Былі такія факты і ў Беларусі. Мы поўнасцю падзяляем ваш гнеў і абурэнне, Мікіта Сяргеевіч, да такіх кіраўнікоў і прымем самыя рашучыя меры да таго, каб не дапускаць такой ганебнай для нашай партыі з'явы».

А гнеў і абурэнне Мікіты Сяргеевіча Хрушчова вельмі ярка і глыбока выказаны нават у рэпліцы на Пленуме ў час даклада таварыша Д. С. Палянскага. Вось, яна, гэтая рэпліка: «Трэба сказаць, таварышы, што гэта неверагодная справа, калі купляюць сметанковае масла ў магазінах і гэтае сметанковае масла калгас залічвае ў выкананне плана, свайго абавязацельства і здае дзяржаве. І такую справу, таварышы, часам робяць камуністы. Гэта нейкае скажэнне, спекуляцыя, гэта нават не спекуляцыя, а вялікае злачынства. Трэба выдаць адпаведны закон, па-партыйнаму спаганяць з ашуканцаў, выключаць іх з партыі. Трэба судзіць ашуканцаў, не зважаючы на асобы, не зважаючы на становішча, якое яны займаюць!»

Чытаючы матэрыялы Пленума, я не магу не ўспомніць і пра сваю родную вёску, якая многа год была адсталай брыгадай калгаса «Свабода» Старобінскага раёна, а цяпер перайшла ў саўгас і таксама адстае. Адстае ж яна галоўным чынам з-за таго, што тут увесь час вельмі не шанцавала з кіраўнікамі, што тыя людзі, якія павінны былі адказваць за справу, сумленна выконваць свае абавязацельствы, больш цікавіліся рознымі гандлёвымі махінацыямі ды прыпіскамі. У пяцьдзесят дзевятым годзе ў маёй вёсцы былі раздадзены калгаснікам лепшыя ўчасткі сенажаці пад малако. Калгаснікі куплялі ў горадзе масла, здавалі яго калгасу, а за гэта касілі для сваіх кароў сена. У мінулым жа годзе ўсе рабочыя саўгаса і нават настаўнікі ўсё лета здавалі саўгасу малако за тое, што іх каровы пасвіліся на саўгасным полі.

Наколькі гэта законна, не бяруся сцвярджаць, але толькі думаю, што наўрад ці паказваў саўгас у афіцыйных зводках, ад чыіх кароў было тое малако.

Вось такія прыкрасці часам дрэнна ўплываюць на сумленных працаўнікоў, замінаюць ім актыўна жыць і тварыць, імкліва ісці наперад. Але гэтыя з'явы ўжо не характэрны для нашага грамадства, гэта толькі мізэрныя рэшткі даўно аджытага, пераадоленага. Сумленнымі намаганнямі нашы людзі, энтузіясты камуністычнай працы, рашуча адкінуць і гэтыя рэшткі мінулага ды яшчэ з большай упэўненасцю і бадзёрасцю светлым шляхам пойдуць наперад да праменных вышынь камунізма.

Ва ўсіх нашых людзей, сумленных змагароў за лепшае, багатае жыццё калгаснай вёскі, ёсць цвёрдая і светлая ўпэўненасць, што Пленум Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Савецкага Саюза вынесе вельмі важныя і жыццёва неабходныя рашэнні аб далейшым развіцці сельскай гаспадаркі, што гэтыя рашэнні яшчэ вышэй узнімуць энтузіязм працаўнікоў нашых калгасаў, саўгасаў, нашых вучоных механізатараў і створаць усе неабходныя ўмовы для самых высокіх паказчыкаў у вытворчасці хлеба, мяса, малака і іншых прадуктаў.

Радуюцца савецкія людзі і таму, што Пленум вырашыў склікаць 17 кастрычніка гэтага года XXII з'езд нашай партыі. Гэтае рашэнне натхняе кожнага савецкага чалавека і ўсіх прагрэсіўных людзей свету. Кожны з нас адчувае, што новая праграма Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, якая будзе прынята на з'ездзе, абагуліўшы каштоўны вопыт будаўніцтва сацыялізма ў нашай краіне, а таксама гістарычны вопыт сучаснай эпохі, вызначыць светлыя шляхі далейшага развіцця нашага грамадства, шляхі будаўніцтва камунізма.

**Аляксей КУЛАКОЎСКІ.**



З вялікай цікавасцю сочаць за работай студзеньскага Пленума ЦК КПСС працаўнікі сельскай гаспадаркі.

**На здымку:** сакратар партыйнай арганізацыі калгаса «Сталінскі шлях» Мінскага раёна В. Д. **Рабцаў** знаёміць калгаснікаў з матэрыяламі Пленума.

Фота **П. Наватарава.**
Фотахроніка БЕЛТА.

САВЕЦКІ ПРОСТЫ ЧАЛАВЕК

# З БАЦЬКОЎСКІМ КЛОПАТАМ

Калі я праходзіў міма гарадской Дошкі гонару, што стаіць каля галоўнага ўваходу ў кінатэатр «Радзіма» г. Маладзечна, мяне зацікавіла размова двух чалавек.

— Не, Пятрусь, не ведаю, як у вас, а ў нас не так. Калі б я не ведаў нашага Мікалая Мацвеевіча. Гэта добры, гэта цудоўны чалавек!

— Добра, пакінь сваё красамоўства. Ты не хочаш пагадзіцца, што замест Сяргеева, якога вельмі любіш, мог быць змешчаны партрэт іншага рабочага. Пайшлі.

Я падыйшоў да Дошкі гонару бліжэй. Пачаў углядацца ў партрэты і чытаць пад імі подпісы, зробленыя прыгожым почыркам. Машыніст... Слесар... Швачка... Муляр... А ў крайнім справа, трэцім зверху радзе прачытаў: «Сяргееў М. М., брыгадзір брыгады рамонтнікаў»...

Пры сустрэчы з Сяргеевым на жалезабетонным заводзе я падумаў, што фотаапараты не зусім дакладна перадаюць рысы чалавека. Сяргееў быў трошкі старэйшы, чым на партрэце. Яму было год сорак.

— Працы хоць адбаўляй, — Мікалай Мацвеевіч пачаў тлумачыць задачы брыгады, якую ён узначальвае. — Гаспадарка завода вялікая, тэхнікі многа. А дзе тэхніка, там, самі ведаеце, ніяк не абыйсціся без аглядаў і рамонтаў. Мы на такім жа становішчы, — стрымана ўсміхнуўся брыгадзір, — як урачы. Урачам не плануюць захворванне людзей, а нам не вядомы загадзя «хваробы» механізмаў. Але яны ёсць. І, на жаль, нямала.

Затым Мікалай Мацвеевіч расказаў аб перадавіках, рацыяналізатарах. Дарэчы, летась дванаццаць рацыяналізатарскіх прапаноў Сяргеева ўкаранілі ў вытворчасць, а членаў усёй брыгады — некалькі дзесяткаў.

— Так, поспехі ў вас добрыя,— сказаў я. — Прызнацца, вам можна пазайздросціць, вы ў курсе ўсіх спраў завода.

У блакітных вачах Мікалая Мацвеевіча заіскрыўся смех, каля вачэй сабраліся тоненькія зморшчынкі.

— Будзеш у курсе, — адказаў ён.—Старшынёю заўкома выбралі мяне, а ў дадатак яшчэ і членам партыйнага бюро. Паспрабуй адстаць ад курса...

Ён крыху памаўчаў.

— Нагрузілі, даводзіцца везці, — гаворыць Мікалай Мацвеевіч, разважаючы. — Абавязкаў многа. Рабочы захварэў — афармляй бюлетэнь, дамагайся аплаты яго. А хварэюць у нас, шчыра прызнацца, часта. Нядоўга, але часта. Скразнякі — пакуль што непазбежны спадарожнік нашай работы, дзверы кожную хвіліну адчыняюцца. Патрэбна цеплавая заслона. Ваюю з дырэкцыяй, пакуль без вынікаў... Цяжка дастаць вентылятары.

Або вось — буфет пры заводзе. Ледзь што, рабочыя патрабуюць: навядзі парадак... І так бясконца.

Мікалай Мацвеевіч дастаў пачак папярос, закурыў. Калі ён запальваў запалку... Так, іменна ў гэты момант я ўбачыў, што на левай руцэ брыгадзіра на месцы вялікага пальца — шрамы...

— Сам вінаваты, — перахапіўшы мой погляд, усміхнуўся збянтэжана брыгадзір. — Аднойчы электрадрэлю... Рубільнік забыўся выключыць, ну і... Адным словам наперад навука.

Крыху памаўчаўшы, Сяргееў вярнуўся да ранейшай размовы:

— Іншы раз вернешся падвечар дадому, перакусіш, сядзеш пачытаць, або дачок паслухаць. Старэйшая ў мяне вучыцца ў музычным вучылішчы, а малодшая — яшчэ ў музычнай школе. Я ім купіў піяніна — няхай вучацца. Зразумела, дзеці любяць пахваліцца ведамі перад бацькамі...

І вось чытаю іншы раз ці слухаю дзяцей і раптам думкі самі вяртаюцца зноў да завода, нібы іх нейкі магніт прыцягвае... З кім-небудзь аб нечым удзень не дагаворыш, чагосьці не даробіш, спахопішся, плануеш на заўтра,а то і адразу ідзеш да чалавека. Завод жа ў дзве змены працуе.

Мікалай Мацвеевіч змоўк, нахмурыўся.

— Чалавека пакрыўдзіць лёгка,— зноў загаварыў ён, стрымліваючы ў сабе штосьці перажытае, штосьці балючае і ў той жа час радаснае. — Яшчэ лягчэй адвярнуцца ад чалавека, калі ён у бядзе. Зрабіў выгляд, што не бачыш, скажам, тонучага і ідзі сабе прэч ад берага... Сведкаў не было, можаш спакойна есці, курыць і інш. Толькі ж на глыбокую праверку тады ты—нікчэмнасць! Ні больш ні менш. Праўду кажу. А вось дапамагчы чалавеку значна цяжэй...

Гады паўтара таму назад у нашу брыгаду прыслалі маладзенькага хлапчука Аляксандра. Сямнаццаць год было яму. Сустрэўся я з ім упершыню. Спадылба так і глядзеў на ўсіх. Не адразу, але ўдалося разгаварыцца з ім. Сам ён мінчанін. Быў злодзеем-кішэннікам. Двойчы яго судзілі. Прыехаў хлопец у Маладзечна. Узялі вучнем слесара. Тыдні два працаваў добра. Потым раптам, ні ў кога не спытаўшы, нікому не сказаўшы ні слова, пасля абеду ўцёк з работы і на другі дзень з'явіўся на завод з вялікім спазненнем. «У чым справа?» — пытаюся. Маўчыць, адварочваецца ад мяне. Я не разумею: ці то крыўдзіцца за што, ці сорамна яму? Адвёў яго ў бок, зноў пачаў дапытвацца, што здарылася. Ледзь выцягнуў з яго: у час гульні ў даміно хтосьці тыцнуў пальцам у балючае месца хлопца, калі ён прайграў. «Гэта табе, — кажа, — не кашалькі цягаць...» Чалавек, можа, хацеў пажартаваць, але жарт атрымаўся бязглузды, грубы. Саша пакрыўдзіўся, падняўся з-за стала, пайшоў з цэха, і, кажа, усю ноч блукаў у адзіноце і плакаў...

Крыўда апанавала хлопца. Як звычайна сабраліся мы ў канцы змены ўсёй брыгадай, падвялі вынікі працы за дзень, а потым пагаварылі пра наша рабочае сяброўства і таварыскасць, пра навічка, пра адносіны да яго. Дамовіліся надалей самага малодшага з нас не даваць у крыўду, дапамагчы яму стаць на ногі.

Хутка выпала магчымасць паслаць хлопца на вучобу ў Талін. Адправілі мы яго як след. Ідзе месяц, другі, трэці. Лічым, што Саша ўдасканальвае сваю кваліфікацыю. Аж не: прыходзіць на завод паведамленне, што Аляксандр Н. вось ужо каторы месяц адбывае пакаранне ў турме...

Ох, як «узрадаваў» ён нас! Што ж рабіць? Зноў збіраю брыгаду. Раімся. Бачу, гэтая гісторыя ўсім непрыемная. Толькі вывады былі зроблены розныя. Большасць адразу выказалася за тое, каб узяць хлопца на парукі, а сёй-той запярэчыў, маўляў, чалавек гэты непапраўны... Паспрачаліся. Вырашылі паручыцца. Падрыхтавалі неабходныя дакументы і адаслалі. А праз некалькі дзён і сам «імяніннік» зноў з'явіўся ў нас.

Няёмка адчувалі мы сябе пры сустрэчы з ім. Мы яго паслалі вучыцца аднаму рамяству, а ён заняўся другім... Ашукаў нас. Але прынялі.

Мікалай Мацвеевіч зноў дастаў з кішэні камбінезона папяросы і прыкурыў новую.

— Перад брыгадай, — працягваў ён, — Саша даў слова, што ніколі больш дрэннага ўчынку не зробіць. Паўшчувалі мы яго, але паверылі слову. Хлопец расплакаўся, дзякаваў...

Расказчык уздыхнуў глыбока, нібы пераадолеўшы круты пад'ём, і гаворыць далей:

— Справа пайшла на лад. І раптам аднойчы падыходзіць да мяне хлопец, глядзіць злосна і гаворыць: «Пайду я ад вас, брыгадзір». «Чаму?» — цікаўлюся. Ён расказаў: таварышы па інтэрнату хаваюць ад яго літаральна ўсё — не вераць. А гэта хлопца абражае.

Давялося схадзіць у інтэрнат і не раз. Пераканаў хлопцаў у тым, што сваім недаверам яны не толькі адгароджваюць ад сябе чалавека, не толькі прыніжаюць яго, але і штурхаюць на стары шлях.

Адным словам, клопату было нам з Сашкам нямала. І ўявіце — не памыліліся! Хлопец стаў добрасумленным, чыстым чалавекам, старанным у працы, актыўным удзельнікам мастацкай самадзейнасці завода і горада. Па настаянню брыгады Саша паступіў і паспяхова вучыцца на завочным аддзяленні палітэхнікума. Разам з брыгадай займаецца ў гуртку чарчэння. Судзімасці з яго зняты. Ужо доўгі час працуе ў атрадзе народнай дружыны.

«Ці не Аляксандр стаяў ля Дошкі гонару?» — падумаў я, амаль пераканаlarны, што гэта быў ён!..

А Мікалай Мацвеевіч дадаў у роздуме:

— Ды хіба адзін Саша мае патрэбу ў чалавечнасці?

Часам і сур'ёзнаму чалавеку, камуністу патрэбна таварыская падтрымка. Гэта я і па сабе ведаю: калі б мне не дапамаглі, не падказвалі, не падштурхоўвалі, дык што б я мог зрабіць адзін? Нічога. А побач жа з добрымі, дужымі людзьмі і сябе адчуваеш дужэйшым, і справы спорацца.

Добра сказаў Мікалай Мацвеевіч.

**М. ЧАПРАСАЎ.**

# Самы ўдзячны глядач

Бадай, нідзе нашы сталічныя артысты не сустракаюць такога сардэчнага прыёму, як у вёсцы, дзе кожны іх канцэрт — сапраўднае свята для хлебаробаў. Гэта гаворыць пра незвычайнае імкненне сельскіх працаўнікоў да культуры, пра іх настойлівае жаданне авалодваць духоўнымі багаццямі, пазнаваць прыгажосць твораў мастацтва. Адгукаючыся на культурныя запатрабаванні сельскіх гледачоў, многія тэатры і музычныя калектывы рэспублікі значна ўзмацнілі гастрольную дзейнасць непасрэдна ў раённых і калгасных дамах культуры, у клубах. У гутарцы з нашым карэспандэнтам кіраўнікі некаторых творчых калектываў беларускай сталіцы расказалі, як абслугоўваліся калгаснікі канцэртамі і спектаклямі ў мінулым годзе.

— Калектыў Беларускага тэатра оперы і балету даў для працаўнікоў вёскі 218 спектакляў і канцэртаў, улічваючы і гастрольныя выступленні,—сказаў дырэктар тэатра П. Лютаровіч. — Мы зрабілі канцэртныя паездкі ў Гомельскую, Брэсцкую і Гродзенскую вобласці, а будучы на гастролях у Смаленску і Бранску, таксама накіроўвалі брыгады артыстаў для абслугоўвання сельскіх працаўнікоў. Наш тэатр вельмі зацікаўлены ў тым, каб і ў перыяд стацыянарнай работы яго пастаноўкі ўсё больш наведвалі калгаснікі. Гэтага можна дасягнуць шляхам правядзення культпаходаў. Зрухі ў гэтай справе ўжо ёсць. Так, у мінулым сезоне Мінскі сельскі райком партыі дапамог нам арганізаваць культпаход калгаснікаў раёна на балетны спектакль «Блакітны Дунай». Мы думаем і ў далейшым звяртацца да такой выпрабаванай формы прыцягнення шырокага сельскага гледача ў наш тэатр.

П. Лютаровіч правільна зазначыў, што, на жаль, у многіх добра абсталяваных калгасных дамах культуры адсутнічаюць клавішныя інструменты і гэта значна стрымлівае канцэртную дзейнасць оперных артыстаў у сельскай мясцовасці.

Многа зроблена ў абслугоўванні калгасных працаўнікоў калектывам Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Вось што расказаў намеснік дырэктара філармоніі А. Паніхін:

— У 1960 годзе нашы эстрадныя брыгады наладзілі 840 канцэртных выступленняў у калгасах, саўгасах і РДК рэспублікі, з іх 200 агульнаадукацыйных лекцый-канцэртаў на музычныя і літаратурныя тэмы ў дапамогу слухачам народных універсітэтаў культуры. Брыгады А. Самарадава і Г. Бандарэўскага — З. Сысоевай далі больш за ўсё канцэртаў на вёсцы.

А. Паніхін сказаў, што асаблівай папулярнасцю карыстаецца брыгада эстрадных артыстаў пад кіраўніцтвам і пры ўдзеле Г. Бандарэўскага і З. Сысоевай. Праграма іх выступленняў пастаянна будуецца на беларускім рэпертуары і па сваёй тэматыцы вызначаецца актуальнасцю і навізной. Брыгада 193 разы выступала перад сельскімі гледачамі. Артыстам даводзілася даваць канцэрты на адкрытых пляцоўках, у полі, дзе збіралася вялікая маса народу. А ў Магілёве, напрыклад, эстрадныя спевакі, танцоры і дэкламатары дэманстравалі сваё майстэрства проста з імправізаванай сцэны перад Домам саветаў на канцэрце для перадавых кукурузаводаў вобласці.

З гутаркі з А. Паніхіным стала вядома, што саліст філармоніі А. Самарадаў у час вайны знаходзіўся ў радах аднаго з партызанскіх злучэнняў на Віцебшчыне. Артыст задумаў разам з брыгадай беларускіх артыстаў зрабіць гастрольнае турнэ па знаёмых партызанскіх месцах, сустрэцца з калгаснікамі тых вёсак, дзе калісьці бывалі партызаны.

Цікава таксама было даведацца, што ў гэтым годзе філармонія ў мэтах шырокай прапаганды сур'ёзнай класічнай музыкі збіраецца праводзіць міжкалгасныя канцэрты сімфанічнага і Народнага аркестраў.

У гэтыя дні работнікі мастацтва рэспублікі, знаёмячыся з матэрыяламі Пленума Цэнтральнага Камітэта КПСС, поўны жадання яшчэ больш узмацніць работу па культурнаму абслугоўванню вёскі.

# Фотавыстаўка ў Брэсце

Сардэчна дружаць слаўныя працаўніцы — беларуская даярка калгаса імя Жданава Брэсцкага раёна Лідзія Асіюк і ўкраінская работніца малочна-таварнай фермы Ковельскага раёна Валынскай вобласці Анастасся Гарлінская. Ужо некалькі год яны спаборнічаюць, дабіваючыся высокіх надояў малака. У канцы мінулага года знатныя даяркі сустрэліся, як родныя сёстры. Момант іх хвалюючай сустрэчы паказан на адным са здымкаў, выстаўленых на першай абласной фотавыстаўцы, якая адкрылася 4 студзеня ў Брэсцкім абласным Доме народнай творчасці. Экспанавана 130 работ фатографаў—прафесіяналаў і аматараў.

Усеагульную ўвагу прыцягваюць здымкі «Бягуць-бягуць шляхі-дарогі», «Раніца» выкладчыка Брэсцкага педагагічнага інстытута тав. Калесніка. Бясспрэчная ўдача фотааматара Віркі—здымак «Юная скрыпачка». Цікавыя здымкі Анатоля Чарнова — «Брэсцкія кавуны», Яўгена Макарчука — «Звеннявая Амяльчук», «Партрэт калгасніка», «На трасе газаправода».

**В. МІХНЮК.**

# КНІГІ ГЭТАГА ГОДА

— Якія творы мастацкай літаратуры будуць выдадзены ў гэтым годзе? — такое пытанне задаў ваш карэспандэнт старшаму рэдактару рэдакцыі мастацкай літаратуры Белдзяржвыдавецтва М. Татуру.

Вось што ён расказаў:

— Выдавецкі план гэтага года вялікі і цікавы. Да выдання запланавана 111 назваў. Сярод іх значнае месца займаюць новыя творы пісьменнікаў рэспублікі. Гэта ў асноўным раманы, аповесці, п'есы і зборнікі вершаў, прысвечаныя савецкаму чалавеку, герою сямігодкі, будаўніку камунізма.

З празаічных твораў выйдуць кнігі І. Дуброўскага «Ля самых вакон», Ул. Карпава «Вясеннія ліўні», А. Лазнявога «Дарога ў горы», І. Навуменкі «Сасна ля дарогі», М. Ракітнага «Пад адным дахам» і інш.

Па раздзелу паэзіі запланаваны да выдання зборнікі А. Бялевіча «Вясёлка над палямі», Р. Барадуліна «Станцыя Грамы», К. Буйлы «На абноўленай зямлі», Ул. Дубоўкі «Палеская рапсодыя», Р. Няхая «Размова з восенню», вершы М. Танка. Свае творы прапанавалі да выдання ў гэтым годзе драматургі Э. Валасевіч, М. Гарулёў, В. Зуб, С. Мікула.

Па літаратуразнаўству і крытыцы рыхтуюцца да выдання зборнікі крытычных артыкулаў Р. Бярозкіна, Д. Фактаровіча. Значную цікавасць уяўляюць манаграфіі Ф. Куляшова «Міхась Лынькоў», С. Майхровіча «Творчасць Янкі Брыля», М. Смолкіна «Змітрок Бядуля».

У перакладах на беларускую мову выйдуць кнігі пісьменнікаў народаў СССР — А. Пракоф'ева, Ю. Балтушыса, Э. Вілкса, В. Гроса, К. Данелайціса, Т. Масэнкі. Запланаваны таксама выданні твораў пісьменнікаў сацыялістычных краін і раман паўднёваафрыканскага пісьменніка Г. Блума.

У сёлетнім годзе беларускі чытач атрымае многа збораў твораў і выбраных твораў. Да іх у першую чаргу адносяцца тры тамы дванаццацітомнага выдання Я. Коласа, выбраныя творы А. Астрэйкі, М. Багуна, В. Віткі, В. Таўлая, збор твораў у двух тамах М. Паслядовіча і інш.

Выйдзе з друку першы том Анталогіі беларускай паэзіі.

# ПРАЦУЕ ЎНІВЕРСІТЭТ КУЛЬТУРЫ

Трохі больш года прайшло з дня адкрыцця ўніверсітэта культуры ў Навагрудку. Некалькі дзесяткаў навагрудчан наведвалі першыя заняткі. А сёння савет універсітэта не можа задаволіць усіх, што імкнуцца стаць слухачамі гэтай грамадскай навучальнай установы. Універсітэт наведваюць некалькі сот жыхароў горада.

Праграма другога года навучання складзена з цыклаў: марксісцка-ленінскай эстэтыкі, літаратурны, музыкі, кінамастацтва, навукі і тэхнікі.

Завершаны заняткі першага цыкла. Навагрудчане з цікавасцю слухалі лекцыі кандыдатаў філасофскіх навук К. Астроўскага «Мастацтва як форма грамадскай свядомасці», Г. Лакізы «Сацыялістычны рэалізм — творчы метад сацыялістычнага мастацтва» і г. д.

Перад слухачамі ўніверсітэта выступілі гродзенскія артысты са спектаклямі «Юстына», «Мільён за ўсмешку», «Якарная плошча», артысты Белдзяржфілармоніі і іншыя творчыя калектывы.

# РАЗМОВА ПРА СКУЛЬПТУРУ

Рэспубліканская мастацкая выстаўка сведчыць, што сучасная тэма стала галоўнай у творчасці беларускіх майстроў. Усё больш жывапісцаў і скульптараў звяртаюцца да тэмы сацыялістычнай працы.

Сярод скульптурных твораў на гэтую тэму вылучаецца вялікая двухфігурная кампазіцыя «Вышыннікі» — дыпломная праца маладога мінскага скульптара А. Анікейчыка, які ў 1959 г. скончыў Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут.

Змест скульптуры просты і зразумелы. Мантажнікі — хлопец і дзяўчына — зверху збудавання глядзяць уніз, на будаўнічую пляцоўку. Кампазіцыя скульптуры такая, што глядач нібы побач з вышыннікамі любуецца панарамай будаўніцтва.

У «Вышынніках» адчуваюцца набытыя аўтарам за гады вучобы веды і навыкі ў працы над жывой мадэллю. Фігуры стройныя, добра вылеплены і прамадэліраваны, у іх усё проста і натуральна — перад намі жывыя людзі.

Разам з тым скульптура не зусім завершаная. Ёсць пэўная наўмыснасць у позе дзяўчыны. Аднак у творы ёсць паэтычнае бачанне жыцця, выразны сюжэт, адзінства зместу і формы, уласцівае кожнаму сапраўднаму мастацкаму твору.

Пра такое адзінства давялося ўспомніць, гледзячы на другую скульптуру з той жа назвай «Вышыннікі» скульптара П. Белавусава.

А. Анікейчык і П. Белавусаў вырашаюць адну тэму. У абедзвюх кампазіцыях героі — высока над зямлёй. Там і тут двое герояў — юнак і дзяўчына. Нібы ўсё падобна. Але вырашэнне тэмы неаднолькавае.

У скульптуры Белавусава быццам улічаны асноўныя законы фармальнай кампазіцыі (раўнавага аб'ёмаў, спроба згарманіраваць асобныя рухі фігур). Аднак, калі ў групе Анікейчыка фігуры ўспрымаюцца ў сінтэзе, дык у Белавусава кожная фігура як самастойная: іх дзеянні не ўзгоднены.

«Вышыннікі» Анікейчыка з'яднаны пластычнай задумай, у той час, калі ў Белавусава тэма «не чытаецца». Што канкрэтна робіць у яго скульптуры малады рабочы? Балансуючы, герой трымаецца левай рукой за стойку, сціскае ў правай гаечны ключ, глядзіць угару. А што робіць дзяўчына? Узнімаючыся наверх, на нейкае імгненне спынілася, каб аддыхацца, і ў гэты час глянула ўніз. У групе няма пластычнай сувязі, якая звычайна вызначае дакладнасць мастацкай формы.

І апошняя паралель. Анікейчык тактоўна, у стрыманай манеры вырашае пляцоўку, на якой знаходзяцца маладыя рабочыя. Уражання вышыні ён дасягае чыста выяўленчымі сродкамі. У працы Белавусава занадта вялікае месца займае металічны каркас — своеасаблівы «п'едэстал», на які ўзняліся рабочыя. Гэтая «сухая» дэталь неяк дрэнна зрокава ўспрымаецца ў сувязі з асноўнай часткай скульптуры. Яна і пластычна бедная.

Вынікам наведвання С. Селіханавым Салігорскага калійнага камбіната з'явілася яго скульптурная сюіта з жыцця беларускіх шахцёраў. Многія работы з сюіты экспануюцца на выстаўцы.

Прынцыповае значэнне мае шматфігурная кампазіцыя «Шахцёры Салігорска. Першы цюбінг». Селіханаў—сталы майстра. Аднак гэтая праца не належыць да лепшых у яго творчасці. У скульптуры няма таго абагульнення і той ступені пластычнай завершанасці, якія ўласцівы кожнаму паўнацэннаму мастацкаму твору. Перад намі трапна зроблены рэпартаж аб бачаным.

Шахцёры паказаны ў напружаных позах, што падкрэслівае толькі адзін бок іх працы — тое, што яна фізічная. Пры той ступені механізацыі, якая характэрна цяпер для кожнай новабудоўлі ў краіне, рабіць галоўны ўпор на мускульную сілу рабочых наўрад ці правільна.

«Шахцёры» сведчаць аб уменні Селіханава аператыўна адгукацца на падзеі, якія ўсхвалявалі яго.

Калі са строгай патрабавальнасцю падыйсці, напрыклад, да такой скульптуры, як «Проба сталі» Б. Івонцьева, дык трэба сказаць, што аўтар больш-менш правільна фіксуе вытворчы працэс, але мала расказвае пра людзей працы, недастаткова раскрывае іх унутранае жыццё. Тут, як і ў папярэдняй працы, ёсць «жывасць схопленага моманту» — і толькі. Сюжэт яўна пераважае над пластыкай і наогул над выразнасцю формы. Нельга папракнуць аўтара тым, што ён не імкнецца па-свойму паказаць ліцейшчыкаў. Адчуваецца лаканічнасць — удала знойдзены рух галоўнага героя. Але навошта паказана жанчына, якая стаіць каля рабочых і назірае за ходам аперацыі?

Аўтар не здолеў знайсці арганічнае адзінства кампазіцыі, бо група ізалявана ад навакольнага асяроддзя. Магчыма, гэтую тэму лепш за ўсё варта было вырашаць у тэхніцы рэльефу, што дазволіла б паказаць месца дзеяння — ліцейны цэх. Звязаўшы ў адзінае цэлае пярэдні план з фонам, можна было б больш поўна данесці задуму аўтара. Але могуць быць і іншыя рашэнні.

У своеасаблівасці тоіцца поспех любога твора мастацтва. Гэта адчуваецца ў новым творы В. Палійчука «Маці партызан». Тэма не новая. Але прыемна, што аўтар знайшоў новыя формы і новыя аспекты яе вырашэння, знайшоў кампазіцыйную завязку, якая адрознівае яго працу ад ужо вядомых.

Абапал маці яе дзеці-партызаны, справа ад яе — сын, злева— дачка. Знойдзены кампазіцыйны прыём надае скульптуры ўстойлівасць, строгасць і, магчыма, гэтым прыцягвае ўвагу гледачоў.

Галоўную ўвагу аўтар, натуральна, аддаў раскрыццю цэнтральнага вобраза — маці. У гэтай простай савецкай жанчыны вялікая сіла волі. Яна паказана строга, яе вочы, поўныя нянавісці да ворага, глядзяць удалячынь. Але яе вобраз даведзены да такой ступені абагульнення, што ператварыўся ў нейкі адцягнены сімвал. Ці не занадта надзелена маці рысамі суровай сканцэнтраванасці, між тым, як іншыя персанажы вырашаны ў лірычным плане?

Дзеці паказаны з апушчанымі галовамі. Што яны партызаны, мы даведваемся па чыста вонкавых атрыбутах: па аўтамату. Поза іх зусім не выяўляе сутнасці партызанскага жыцця. Апушчаная галава не сведчыць пра энергію і рашучасць на подзвіг у імя Радзімы.

Дапусцім, што аўтар меў на мэце паказаць юных герояў не ў баявой абстаноўцы і не грознымі ў сваім гневе, а ў хатнім асяроддзі, больш або менш інтымным. Жывучы суровым і небяспечным жыццём, маладыя людзі натуральна занудзіліся па родным доме, па мацярынскай ласцы і, сустрэўшы маці, пяшчотна прытуліліся да яе. Усё гэта праўдападобна і натуральна. Як жа пры такой сітуацыі павінна была іх сустрэць маці? Вядома, не так, як гэта паказвае Палійчук. Яго маці пазбаўлена мацярынскіх пачуццяў. Вось гэтая супярэчлівасць у вобразным вырашэнні скульптуры, на нашу думку, зніжае яе вартасць.

Маладым удзельнікам гомельскага падполля, многія з якіх загінулі ў няроўным баі з ворагам, прысвяціў скульптурную групу «Маладагвардзейцы Гомеля» В. Папсуеў.

Пакаранне смерцю савецкіх патрыётаў фашысцкімі забойцамі не раз адлюстроўвалася нашымі мастакамі. Прыгадаем тут шырокавядомую работу «Мацней за смерць» Ф. Фівейскага. У «Маладагвардзейцах», як і ў гэтай працы, па сутнасці, адлюстравана адна і тая ж сцэна: гітлераўскія каты расстрэльваюць трох маладых савецкіх патрыётаў. У адрозненне ад групы Фівейскага, дзе пададзены абагульняючы вобраз і дзейнічаюць героі «ўвогуле», у «Маладагвардзейцах» прадстаўлены канкрэтныя людзі, якія жылі і змагаліся ў Гомелі. Узнікае пытанне: ці можна па адлюстраванню даведацца, што перад намі прадстаўлены іменна падпольшчыкі Гомеля? Што адрознівае герояў Папсуева ад герояў Фівейскага? Глядач адрознення не заўважыць. Калі гэта так, дык ці не лепш было б даць твору больш абагульненую назву?

У «Маладагвардзейцах» ёсць спроба дамагчыся адзінства кампазіцыі, узаемасувязі герояў, іх вобразнай характарыстыкі. Гэта асабліва датычыць маладога падпольшчыка справа ад цэнтральнай фігуры. Жахлівыя катаванні ў гестапаўскіх засценках не зламалі яго духу. Вобраз падпольшчыка ў цэнтры скульптуры вырашаны менш пераканальна,

(Заканчэнне на 3-й стар.).

# ХВАЛЮЮЧЫЯ ДАКУМЕНТЫ

Поспехамі, дасягненнямі нашай рэспублікі захапляюцца сёння не толькі працоўныя братніх рэспублік, але і многія нашы зарубежныя сябры, якія прыязджаюць да нас у госці з іншых краін. Аб гэтым ярчэй за ўсё сведчаць водгукі саміх наведвальнікаў, якія сабраны ў выпушчанай нядаўна Беларускім дзяржаўным выдавецтвам кнізе «Беларусь — вачыма зарубежных гасцей».

У прадмове да кнігі падкрэсліваецца, што толькі ў 1949 г., напрыклад, Беларусь наведалі больш як сто замежных дэлегацый і 11 тысяч турыстаў. Вучоных і дзяржаўных дзеячоў, журналістаў і работнікаў мастацтва — усіх цікавілі поспехі рэспублікі, жыццё беларускага народа. Працоўныя Беларусі з радасцю сустракаюць гасцей. З пачуццём гонару яны гавораць: «Калі ласка, глядзіце, людзі добрыя, чаго можна дасягнуць пры Савецкай уладзе, пад кіраўніцтвам партыі камуністаў. Глядзіце і вучыцеся, бярыце з нас прыклад, спаборнічайце з намі ў развіцці мірнай эканомікі».

Матэрыялы, змешчаныя ў зборніку, — цікавыя, хвалюючыя дакументы пра росквіт Савецкай Беларусі, пра шчаслівае і радаснае жыццё народа нашага.

Што ж заўважаюць замежныя людзі, на што перш за ўсё звяртаюць увагу?

Прыезджых захапляе гераізм нашага народа.

Сімвалам адвагі і геройства савецкіх людзей была абарона Брэсцкай крэпасці ў 1941 г. Пра вялікі подзвіг нашых воінаў ведае ўвесь свет. Праязджаючы праз пагранічны беларускі горад, замежныя дэлегацыі і турысты стараюцца абавязкова наведаць Музей абароны Брэсцкай крэпасці. У кнізе водгукаў госці пакідаюць усхваляваныя запісы, частка якіх прыводзіцца ў зборніку. Тут ёсць водгукі Марыса Тарэза, Пальміра Тальяці, Вальтара Ульбрыхта, Уладзіслава Гамулкі і іншых відных дзеячоў розных краін.

Амерыканскі журналіст Джэймс Рэстон пасля падарожжа па СССР напісаў у газеце «Нью-Йорк Таймс»: «Савецкаму Саюзу ёсць што паказаць па дарозе ў Маскву». Асабліва ён падкрэсліў павучальныя ўрокі гісторыі. «Першая палова дарогі, — зазначае Рэстон, — праходзіць праз усю Беларусь. Яна ўяўляе сабой адно з самых старажытных палёў ваенных бітваў у гісторыі Расіі. Шведы нападалі на яе з поўначы, Напалеон і Гітлер таксама ўрываліся ў яе. Немцы разбурылі яе гарады. Але гэтая краіна ніколі нікім не была заваявана...»

Ведаючы, якія страшэнныя раны былі нанесены фашыстамі Мінску, падарожнікі проста вачам сваім не вераць, гледзячы на нова адбудаваную сталіцу рэспублікі. Яны захапляюцца выдатнай творчасцю таленавітых архітэктараў, муляраў, цесляроў. Іх зачароўвае хараство светлых, шырокіх праспектаў і вуліц, якія тонуць у зеляніне. І ва ўсім гэтым відаць клопаты Савецкай улады аб чалавеку, аб яго дабрабыце.

«Пасля завяршэння будаўніцтва, — зазначыла японская грамадская дзеячка Кэйко Сімідзу, — Мінск, мне здаецца, безумоўна стане адным з самых прыгожых гарадоў не толькі Савецкага Саюза, але і свету».

Вельмі цікавыя думкі выказаў польскі журналіст Станіслаў Юнг: «Калі на радыятары грузавога аўтамабіля ўбачыш сілуэт зубра і побач з ім тры рускія буквы МАЗ—ведай, што гэты аўтамабіль выпушчан Мінскім аўтамабільным заводам. Зубр — гэта сімвал магутнасці і сілы. Жывых зубраў у Беларусі нямнога і жывуць яны ў заказніках. Зубраў на радыятарах грузавікоў — шмат, і з году ў год іх становіцца больш, а сустрэць іх можна на дарогах, палях, і ў лясах не толькі Беларусі, але ўсюды ў Савецкім Саюзе і за яго межамі. Аўтамабілі Мінскага завода ідуць на экспарт амаль ва ўсе краіны свету».

«Яшчэ нядаўна, — прадаўжае аўтар, —якому-небудзь беларускаму селяніну магло хіба прысніцца, што на яго радзіме ў бедным краі лясоў, балот і параўнаўча бедных зямель будзе збудаваны, і пры гэтым яго ўласнымі рукамі, адзін з буйнейшых у Савецкім Саюзе сучасны аўтамабільны завод.

Хто ж яшчэ нядаўна мог меркаваць, што іменна Беларусь стане радзімай буйнейшых грузавых аўтамабіляў-гігантаў грузапад'ёмнасцю ў 40 тон!

Іменна ў гэтым заключаецца глыбокая сімволіка сілы і магутнасці Савецкай улады, савецкіх людзей, якія літаральна з нічога на месцы, якое нядаўна было пакрыта лясамі, здолелі за рэкордныя тэрміны пабудаваць завод і наладзіць на ім вытворчасць машын, што выклікаюць здзіўленне ва ўсім свеце».

З глыбокай павагай замежныя госці гавораць пра дасягненні беларускага народа ў галіне сельскай гаспадаркі, навукі, культуры і мастацтва. Дырэктар Каралеўскай акадэміі драматычнага мастацтва Англіі Джон Фернал, які глядзеў у Мінску ў пастаноўцы Рускага драмтэатра імя Горкага п'есу Шэкспіра «Кароль Лір», шчыра прызнаўся, што ён «ніколі не бачыў лепш пастаўленай або сыгранай п'есы».

Група былых выхадцаў з Беларусі, якія ў 1959 г. наведалі родныя мясціны, — не пазнала іх. Замест лапцюжнай, сярмяжнай, непісьменнай старой беларускай вёскі, з пахілымі хаткамі яны ўбачылі зусім новыя вёскі, новых людзей у іх. Іх здзівіла, што насельніцтва сучаснай беларускай вёскі — пагалоўна пісьменнае. Усюды ёсць школы, амаль усюды — электрычнасць гарыць, у хатах гаворыць радыё. У вёсках адбудаваны добраўпарадкаваныя дамы, клубы, лазні, бальніцы, магазіны...

Чытаеш водгукі замежных гасцей пра нашу рэспубліку, і душа радуецца за яе гераічны, працавіты народ. Ніколі больш не вернецца цяжкая мінуўшчына. На верную і светлую дарогу вывеў нас Вялікі Кастрычнік. Пры дапамозе іншых народаў Савецкага Саюза беларусы стварылі сваю сувярэнную дзяржаву, зрабілі велізарны скачок ад эканамічнай і культурнай адсталасці да вяршынь грамадскага прагрэсу. І не выпадкова ў нашу рэспубліку, на нашы беларускія заводы і фабрыкі, у навукова-даследчыя інстытуты і калгасы едуць цяпер браць вопыт, вучыцца людзі з розных краін і кантынентаў.

**С. КОНАНАЎ.**



**На здымку:** сцэна са спектакля «Венецыянскія блізняты» ў пастаноўцы Рускага драматычнага тэатра імя А. М. Горкага. У ролях: Дзанеты — артыст **С. Галуза,** Разауры—артыстка **Я. Бірукова.**

# БОЛЬШ УВАГІ ПАЭТЫЧНАЙ КНІЗЕ

*Са справаздачна-перавыбарчага сходу секцыі паэзіі СП БССР*

Колькі радасных перамог на фронце мірнага будаўніцтва дасягнуў наш савецкі народ у мінулым, 1960 годзе! Подзвігі савецкіх людзей варты найлепшых песень і паэм, хвалюючых твораў аб нашай сучаснасці.

Чым жа мінулы год быў характэрны для беларускай паэзіі? Што зрабілі нашы паэты, каб сваім палымяным словам уславіць родную Айчыну, яе гераічны народ, і яшчэ вышэй узняць майстэрства паэзіі, яе адказную ролю ў барацьбе за выкананне велічных планаў сямігодкі?

Аб гэтым ішла гаворка на справаздачна-перавыбарчым сходзе секцыі паэзіі СП БССР, які адбыўся 11 студзеня.

У дакладзе паэт Сяргей Грахоўскі падрабязна спыніўся на дасягненнях мінулага паэтычнага года. Многія нашы паэты парадавалі чытачоў новымі творамі, прысвечанымі Радзіме, партыі, Леніну. Анатоль Вялюгін апублікаваў у «Полымі» першую частку паэмы «Вецер з Волгі» — аб юнацкіх гадах Уладзіміра Ільіча. Аўтар добра вывучыў той гістарычны матэрыял, які лёг у аснову паэмы. І трэба спадзявацца, што яго новы твор з'явіцца значным здабыткам нашай паэзіі. Максім Танк апублікаваў некалькі цыклаў вершаў, кожны з якіх адкрывае штосьці новае. Асабліва вылучаюцца, на думку дакладчыка, такія вершы, як «Роздум», «Сямейны фотаздымак», «Табліца множання», вершы аб Амерыцы, напісаныя ў час знаходжання на XV сесіі Генеральнай Асамблеі ААН у Нью-Йорку.

Плённым быў мінулы год у творчасці Петруся Броўкі. Яго паэма «Маці» — глыбока хвалюючы твор аб барацьбе працоўных за мір, супраць вайны. Новыя вершы паэта, якія ўвайшлі ў асобную кніжку «Далёка ад дому», — таксама добры падарунак чытачу. Яны, падкрэслівае дакладчык, радуюць сваёй навізной. Працавітасць паэта, яго творчае натхненне — прыклад для многіх.

Барацьбе за мір, дружбе народаў прысвечана кніга новых вершаў Пімена Панчанкі «Нью-йоркскія малюнкі». Вершы гэтай кнігі («Калі падступаюць слёзы», «Хаджу і езджу па Амерыцы» і інш.) напісаны з глыбокім пачуццём любві да Радзімы, хвалююць чытача, яшчэ шырэй раскрываюць перад ім свет.

Наша савецкая рэчаіснасць — асноўная тэма творчасці беларускіх паэтаў. На гэтую тэму напісана шмат твораў. Асабліва вылучаецца сярод іх цыкл вершаў Уладзіміра Дубоўкі «Падарожжа на Прыпяць». Паэт прыглядзеўся, здавалася б, да самага звычайнага, будзённага і з глыбокім паэтычным абагульненнем намаляваў карціны жыцця і працы савецкіх людзей на сённяшнім Палессі. Вершы гэтыя сведчаць аб творчай маладосці нашага старэйшага паэта.

Звярнулі на сябе ўвагу таксама новыя вершы Рыгора Барадуліна, напісаныя пасля паездак на будаўніцтва Полацкага нафтаперапрацоўчага завода і Бярозаўскай ДРЭС. Малады паэт адчувае пульс жыцця, ідзе ў нагу з ім. Яго вершы вылучаюцца свежасцю, арыгінальнасцю. Але, на думку дакладчыка, часам сярод іх трапляюцца і слабыя, у якіх заўважаецца паспешлівасць.

Вершы, прысвечаныя братняй дружбе народаў, Радзіме, напісалі М. Калачынскі, П. Пестрак, К. Кірэенка, А. Бялевіч. Актыўна выступалі ў друку А. Звонак, Р. Няхай, А. Бачыла, А. Лойка, М. Аўрамчык, А. Русецкі, Я. Пушча, Н. Гілевіч і многія іншыя паэты.

У часопісах і газетах з'явілася шмат вершаў і нашай паэтычнай моладзі. Першыя кнігі выпусцілі Г. Бураўкін, Ул. Паўлаў, І. Сіпакоў, В. Костылеў, В. Тарас. Шмат зрабілі беларускія паэты і ў галіне мастацкага перакладу з іншых моваў. На беларускай мове выйшлі выбраныя творы Беранжэ, Данілайціса, С. Алейніка. Рыхтуюцца да друку кнігі выбраных вершаў А. Пракоф'ева і Т. Масэнкі. Вялікая праца была праводзена нашымі паэтамі па перакладах вершаў для зборніка «Паэты сонечнай Малдовы».

Спыняючыся на рабоце секцыі паэзіі і яе бюро, дакладчык закрануў шмат цікавых пытанняў, звязаных з прапагандай беларускай літаратуры, правядзеннем літаратурных вечароў, выданнем кніг і выхаваннем літаратурнай моладзі. Па гэтых пытаннях гаварылі ў спрэчках паэты А. Бачыла, П. Прыходзька, А. Русак, П. Броўка, Р. Няхай, С. Шушкевіч, А. Бажко і А. Вялюгін.

Быў зроблен закід у адрас дакладчыка, што ён не спыніўся больш падрабязна на разглядзе асобных паэтычных твораў, у прыватнасці, дзвюх паэм, якія былі апублікаваны ў мінулым годзе — «Карвіга пакідае хутар» А. Бажко і «Штодзённы лістапад» С. Гаўрусёва. Дакладчык мала гаварыў і аб недахопах, якія, безумоўна, былі як у творчасці асобных паэтаў, так і ў рабоце ўсёй паэтычнай секцыі.

Бюро секцыі праяўляла не раз добрую ініцыятыву: напрыклад, вечар лірычнай паэзіі, абмеркаванне творчасці маладых паэтаў, прапановы аб выданні Анталогіі беларускай паэзіі і г. д. Але часам добрыя мерапрыемствы, слушна заўважыў П. Броўка, не даводзіліся да канца. Бюро вырашыла, напрыклад, праводзіць у клубе пісьменнікаў вечар творчасці аднаго паэта з удзелам работнікаў кнігагандлю, студэнцкай моладзі. Але такія вечары пакуль што не праводзяцца.

Усіх выступаючых на сходзе хвалявала пытанне аб тым, як выдаюцца і прапагандуюцца творы беларускай паэзіі. У нас, у Мінску, ёсць зараз добрая паліграфічная база. Але кнігі выдаюцца чамусьці ў бедным мастацкім афармленні, часам на дрэннай паперы, па аднаму стандарту. Прадмовы да іх пішуцца амаль што аднолькавыя, без уліку асаблівасцей таго або іншага паэта. Паглядзіш на зборнікі, выдадзеныя на Украіне, у Літве або ў Латвіі, і душа радуецца. Чаму ж у нас так дрэнна выдаюцца паэтычныя кнігі? Ды і не толькі паэтычныя.

Секцыя паэзіі яшчэ не наладзіла як след кантакт і з работнікамі кнігагандлю, якія дыктуюць выдавецтву свае ўмовы, вызначаюць тыражы і, яшчэ горш, адмаўляюцца затым прымаць кнігу, калі паэт змяніў у ёй назву, перапрацаваў тую або іншую рэч у працэсе падрыхтоўкі да друку. Аб тым, што работнікі кнігагандлю часта памыляюцца, гаворыць такі факт. Для новага зборніка Максіма Рыльскага «Ружы і вінаград» адно з выдавецтваў вызначыла тыраж тры тысячы экзэмпляраў. Кнігу выдалі і праз некалькі дзён у магазінах не было ніводнага экзэмпляра. Цяпер тое ж выдавецтва вымушана перавыдаваць яе дадатковым тыражом.

Паэтычную кнігу, як і ўсякую іншую, трэба прапагандаваць усімі сродкамі — па радыё, тэлебачанню, у друку. Няправільнае меркаванне, падкрэслівалі выступаючыя, што нашу паэзію не чытаюць. Ёю цікавяцца сотні, тысячы людзей. Дрэнна тое, што мы не ўмеем даносіць сваю кнігу да чытача і прапагандаваць яе. Рэцэнзіі на кнігі нашай паэзіі, якія з'яўляюцца ў перыядычным друку, у большасці сваёй павярхоўныя, у іх няма глыбокага аналізу творчасці таго або іншага паэта, глыбокай размовы аб паэтычным майстэрстве. Літаратурныя вечары праводзяцца ў большасці выпадкаў нецікава. Замест таго, каб пагутарыць з чытачамі аб канкрэтных творах, паэты прачытаюць па два — тры вершы. Такія паездкі нічога не даюць ні аўтару кнігі, ні чытачу.

Больш аддаваць увагі паэтычнай кнізе, прапагандзе нашай паэзіі сярод шырокай масы чытачоў, выхоўваць у іх высокія густы і быць патрабавальным да сябе, да сваёй творчасці — такія думкі выказвалі ўсе прамоўцы.

Выбрана новае бюро секцыі, у склад якога ўвайшлі: **Р. Барадулін, А. Вялюгін, Н. Гілевіч, С. Грахоўскі, Е. Лось, А. Русецкі** (старшыня) і **Я. Сяміжон.**

# САМАБЫТНАЕ СЛОВА

Бурнай веснавой паводкай улілося ў беларускую літаратуру ў першыя гады Савецкай улады многа маладых пісьменнікаў. Знамянальна хоць бы тое, што адзін толькі «Маладняк» у сярэдзіне 20-х гадоў аб'ядноўваў некалькі сот членаў. У літаратуру ішлі людзі ад плуга і ад варштата, дэмабілізаваныя чырвонаармейцы і камандзіры, былыя партызаны. Мастацкім словам яны славілі векапомны Кастрычнік, выказвалі запаветныя пачуцці і спадзяванні вызваленага народа, стварылі сваю нацыянальную па форме і сацыялістычную па змесце літаратуру.

У ліку тых маладых пісьменнікаў быў і паэт Язэп Пушча (Язэп Паўлавіч Плашчынскі), выхадзец з беднай сялянскай сям'і.

Друкавацца ён пачаў у 1922 г. у часопісе «Адраджэнне» пад псеўданімам Лясун. «Раніца рыкае», «Vita», «Дні вясны», «Песні на руінах», «Крывавы плакат»... Так называліся кніжкі паэзіі Язэпа Пушчы, якія адна за адной выходзілі з друку ў 20-я гады. Потым у творчай біяграфіі паэта быў вялікі перапынак. У апошнія гады ён зноў актыўна ўключыўся ў літаратурнае жыццё рэспублікі.

Пазнаёміцца з творчым шляхам Язэпа Пушчы чытачы могуць па яго новай кнізе*), якая выйшла з друку летась. У ёй сабраны творы паэта ранняга перыяду і напісаныя ў пасляваенны час. Адкрываецца кніга кароткай, змястоўнай прадмовай Пятра Глебкі.

Асаблівасць ранніх твораў Язэпа Пушчы—адсутнасць у іх разгорнутых эпічных вобразаў і карцін; паэт выступае прыхільнікам невялікага лірычнага верша, лірычнай мініяцюры.

Напісаныя трыццаць і больш гадоў назад, гэтыя творы, змешчаныя ў зборніку, не страцілі цікавасці для сённяшняга дня, захавалі сілу эмацыянальнага ўздзеяння. У іх чуваць водгалас тых слаўных дзён, калі толькі-толькі пачыналася ў нашай краіне вялікае будаванне.

Хлопцы, коней ляйцай  
І на плечы—сяўню!  
Гусі ў небе ляцяць  
На Радзіму сваю;  
Зазвінелі лясы  
На усе галасы.

Сустракае вясну  
Сакаліны ўзлёт.  
Лодкі, хлопцы, вяслуй  
На усход, да яснот,  
Цёмны вір абмінай,  
І вясну абнімай!

Вельмі важна, што ўжо на пачатку творчага шляху ў Язэпа Пушчы выяўляецца ўласнае бачанне свету, гучыць уласны паэтычны голас.

Але гэта зусім не азначае, што ў Язэпа Пушчы не было літаратурных настаўнікаў. Яны, бясспрэчна, былі (беларускі фальклор, Сяргей Ясенін, напрыклад): Стаўленне паэта да творчага вопыту папярэднікаў было заўсёды ўдумлівае, сур'ёзнае. Напрыклад, традыцыйныя фальклорныя вобразы, сімвалы, паэтычныя сродкі пераасэнсоўваюцца Язэпам Пушчай па-новаму:

Прытулюся да сырой зямлі.  
Ой ты, вецер, сціхні, не шумі!

Не хілі былінку ніцма — ніц,  
Дай паслухаць вольны спеў  
крыніц.

Гоман рэчкі, пералівы хваль,  
Што бягуць — снуюць да сонца,  
ўдаль.

Свецяць яснай зоранькі агні,  
Надыходзяць светлай квадры дні.

(«Не пагасла», 1922).

Усхвалявана вітаў Язэп Пушча сацыялістычную рэвалюцыю, якая спраўдзіла адвечныя мары працоўных, прынесла ім доўгачаканае збавенне ад сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту. На поўныя грудзі ўздыхнуў беларускі народ. Настала, нарэшце, для яго пара свабоднай творчай працы, грандыёзных здзяйсненняў. У вершы «Радзіма і Сонца» (1922) паэт малюе вобраз народа-волата, пад напорам якога «скранаюцца горы і трушчацца скалы»; славіць песняю шчаслівае ранне савецкай краіны, гаворыць аб тым найвялікшым працоўным энтузіязме, з якім народныя масы ўзяліся за адбудову сваёй гаспадаркі.

Прачнуліся рана, усталі на зорцы,  
Песняю славім Радзіму і Сонца.

Шчаслівае ранне! Чакае нас праца  
На нівах, заводах, у цэхах гарачых.

Язэп Пушча знаходзіць праніклівыя, задушэўныя словы і выразы, каб перадаць агромністую радасць свайго народа, які скінуў з сябе ланцугі ўціску і эксплуатацыі. Сацыялістычную рэвалюцыю паэт увасабляе то ў вобразе раніцы, то ў вобразе вясны, то ў вобразах сонца і зорак («Раніца», 1923, «Песня сонцу», 1923, «Вясна», 1924, «Раніцу шчэбет пільнуе», 1924). Наогул, карціны вясёлай, залітай сонцам прыроды займаюць вялікае месца ў ранняй творчасці паэта. Гэтыя карціны набываюць глыбокі сацыяльны сэнс, з'яўляюцца сімвалам таго новага ладу жыцця, які настаў у краіне пасля перамогі Кастрычніка. Прырода ў Язэпа Пушчы, як гэта бывае і ў вуснай народнай паэзіі, выступае ачалавечанай, мыслячай. Яна быццам сама прымае актыўны ўдзел у падзеях, радуецца прыходу новага жыцця, адчувае і разумее веліч і грандыёзнасць таго, што адбылося ў Кастрычніку 1917 года. Вось чаму ў творах паэта і сонейка ўсміхаецца, вабіць да сябе, і рэчанька льецца-смяецца, і крыніцы спяваюць, і восень, дзяўчына-красуня, прозалаць сыпле з лясоў, і падшывалец-вецер лапоча ў лістве.

Лірычны герой Язэпа Пушчы выказвае пачуццё бязмежнага шчасця, што ён ходзіць па зямлі і поўнай чарай п'е красу жыцця. Гэты герой «хмелем сягонняшнім п'яны», бо «плаксівую смугу памялом змяло, і сонца па шляху пабегла ў сяло», бо «ў соку сенажаць, каласы шумяць, клічуць уставаць — і касіць і жаць». Ён хоча скласці гімн сонцу, напаіць яго крынічнай вадой, «каб радасць вясёлкай лілася на лісцях зялёненькіх, голлейках-веццях».

На вачах паэта нараджалася новае жыццё. Паэт услаўляў яго ў сваіх творах. Яго песня «ўзлятае, як сокал, у сённяшні сонечны дзень», «коціцца хваляй шырокай, рэчанькай светлай плыве, з борам гамоніць высокім, роднай у народзе слыве». Сімпатыі паэта на баку тых, чыя паэзія служыць грамадству, будзіць думкі і настроі сучаснікаў. У паэме «Сады вятроў» (1930) ён заяўляе:

Мне песня толькі тых прысніцца,  
Хто не згінаў пакорна плеч,  
Хто плыў у мора ў навальніцу,  
Каб радасць новую сустрэць.

Усё тое лепшае, што было характэрным і тыповым для паэзіі Язэпа Пушчы перыяду дваццатых гадоў, захавалася і атрымала далейшае развіццё і ў яго творах пазнейшага часу.

Як і раней, вялікае месца ў паэзіі Язэпа Пушчы займаюць прыродаапісальныя вершы. Самі загалоўкі твораў сведчаць аб гэтым: «Лета», «Песня лета», «Шчодрае лета», «Восень», «Залатая восень», «Шпакі», «Прыляцелі шпакі», «Сонца», «На возеры», «На ўсходзе сонца», «А ў бары, бары сасонкі» і інш. Паэт і тут застаецца самабытным, нягледзячы на тое, што да яго ўжо сотні іншых паэтаў пісалі пра неба і зоркі, пра сонца і месяц, пра лета і восень. Арыгінальную замалёўку беларускага летняга пейзажу маем мы, напрыклад, у вершы «Песня лета», дзе так цудоўна спалучаецца зрокавае і слыхавое ўспрыйманне.

Росы ўлетку чыстыя,  
Птушкі галасістыя,  
Нівы каласістыя...

. . . . . . . . .

Песня салаўіная,  
Даль блакітна-сіняя,  
З лёгкаю хмурынкаю,  
З сонечнай іскрынкаю.

Пейзажныя карціны ў пазнейшых творах Язэпа Пушчы, як гэта было і раней, не з'яўляюцца самамэтай. Карціны і вобразы прыроды набываюць глыбокі абагульняючы сэнс, дапамагаюць аўтару раскрываць унутраны свет свайго лірычнага героя, маляваць вобраз Радзімы, сцвярджаць высакародныя патрыятычныя ідэі. Яны нярэдка бываюць алегарычнымі.

У вершы «Крыніца» ў алегарычным плане апісваецца подзвіг працоўных мас, якія ў векапомныя кастрычніцкія дні скінулі з сябе ярмо прыгнечання і эксплуатацыі і заваявалі права на вольнае і шчаслівае жыццё. Мільёны мазолістых, працавітых рук уперліся ў гару, скранулі яе з месца, прабілі шчыліну ў граніце, і з грудзей зямлі прабілася на свет крыніца. Яна

...Пабегла ўдаль далінай маладой  
І напаіла свой народ здароўем.  
Змянілася суровае надвор'е,—  
На ніве ураджай закаласіў,  
Напіўся кожны колас свежых сіл.

Прырода ў творах Язэпа Пушчы паўстае перад намі як жывая. Яна мысліць, гаворыць, смяецца, радуецца; як і людзі, адчувае паўнату і хараство жыцця. Іменна такой вясёлай і радаснай намалявана прырода ў вершы «На возеры».

На возеры лодкі-маторкі,  
І вёсел вясёлы усплёск;  
Усміхнуліся першыя зоркі,  
І вечар расінкі растрос.

. . . . . . . . .

Тут вербы схіляюцца нізка,  
Калі ім паклоніцца госць.  
Спявае на возеры Мінскім  
Мая і твая маладосць.

Тэматыка пасляваенных твораў паэта надзвычай разнастайная і актуальная. Ён піша пра Леніна, Праўдыра і Чалавека, які «народу шчасце нёс, і ўсё хацеў прынесці болей, каб век народ не ведаў слёз і жыў з вялікай доляй», пра сталіцу Беларусі—Мінск, аб тым, як ён, гэты горад-герой, з руін паўстаў; пра герояў Вялікай Айчыннай вайны; пра вышкі бурыльныя, што «ў неба ўзвіліся» і «з песняй зліліся»; пра настаўніцу, што з гарачай душой ідзе да людзей і нясе ім сонца ў слове залатым; пра сваіх равеснікаў; пра сваё басаногае маленства, пра асушку балот; пра тое, як «добра быць паэтам у такія нашы дні, устаць вясёлым ранкам і ў светлы цэх ісці...» Ён складае прачулыя вершы, прысвечаныя памяці Янкі Купалы, Якуба Коласа, Сяргея Ясеніна, Яна Райніса, Адама Міцкевіча, Байрана; не забывае паэт і нашых маленькіх чытачоў («Першакласнікі», «Зоська і Антосік», «На ўсходзе сонца», «Прыляцелі шпакі»).

У цэнтры ўсёй пасляваеннай творчасці паэта стаіць калектыўны вобраз народа-пераможцы, народа-будаўніка, вобраз вялікай Радзімы Саветаў. Паэт не выступае староннім наглядальнікам падзей, а з'яўляецца іх непасрэдным актыўным удзельнікам.

Узыходжу я на рыштаванні  
Схіліцца ў пояс зорцы ранняй,  
У трывалыя муры пакласці  
Ключы ад песень, сэрца, шчасця.  
(«Прыпаў я да крыніцы»).

Вершы Язэпа Пушчы вызначаюцца значнай паэтычнай культурай. У іх няма нічога лішняга, адсутнічаюць ускладнёныя метафары, параўнанні, эпітэты. Кожная дэталь, кожнае слова ў паэта да месца і дарэчы. Прастата, лаканічнасць, яснасць і даходлівасць—вось найбольш істотныя асаблівасці твораў паэта.

Асобна хочацца адзначыць пасляваенную працу аўтара кнігі ў галіне санета.

У кнігу ўключаны не толькі вершы, але і творы больш буйных жанраў, напісаныя аўтарам у розныя гады: урывак з паэмы «Песня вайны» (1927—1928); паэмы «Крывавы год» (1930), «Сады вятроў» (1930), «Бор шуміць» (1957), «Людвіся» (1959). У гэтых творах ёсць паасобныя ўдалыя спробы стварэння эпічных характараў (напрыклад, дзед Лукаш з паэмы «Бор шуміць»). Ды толькі і ў паэмах Язэп Пушча застаецца лірыкам. Лірычны пачатак пераважае ў іх над апавядальнасцю.

Безумоўна, творчы шлях Язэпа Пушчы не быў гладкі і роўны. Сустракаліся на гэтым шляху ўхабы. Былі ў яго недахопы, памылкі, ідэйныя зрывы. Але ўсё адмоўнае, наноснае, неарганічнае ў творчасці паэта адсеялася з часам. Нашы чытачы ведаюць Язэпа Пушчу як паэта жыццёвай праўды, як задушэўнага лірыка, як гарачага патрыёта.

**А. МАКАРЭВІЧ.**

*) **Язэп Пушча.** Вершы і паэмы. Дзяржаўнае выдавецтва БССР. Мінск. 1960.

# Андрэеўскія традыцыі жывуць і сёння

Споўнілася 100 год з дня нараджэння выдатнага дзеяча народнай музычнай культуры, заснавальніка першага ў Расіі аркестра рускіх народных інструментаў, дырыжора, кампазітара і саліста на балалайцы Васіля Васільевіча Андрэева.

З малых год ён палюбіў рускую народную песню, вучыўся іграць на фартэпіяна і скрыпцы. Упершыню пачуў ігру на балалайцы ад старога сельскага музыканта—дзеда Анціпа з Цвярской губерні. Андрэеў адразу звярнуў увагу на тое, што гэты інструмент можна ўдасканаліць і потым стварыць балалаечны аркестр, прыцягнуўшы да ўдзелу ў ім шырокія колы працоўных. Разам з майстрамі ён робіць адну, другую балалайку, пачынае актыўна выступаць як саліст.

Частыя музычныя выступленні Андрэева, яго ўпартая праца над удасканаленнем балалаек прывялі да стварэння «Першага гуртка аматараў ігры на балалайцы». Але арганізаваць адкрыты канцэрт было вельмі цяжка. Ніхто не даваў для гэтага памяшкання. І ўсё ж 20 сакавіка 1888 г. адбыўся такі канцэрт у карысць «Таварыства дапамогі бедным і хворым дзецям». Канцэрт, у праграму якога ўвайшлі рускія народныя песні, меў поспех. З вялікімі цяжкасцямі была наладжана гастрольная паездка аркестра па Расіі.

Аднойчы андрэеўскі аркестр выступіў на кватэры ў М. Бяляева на адной з музычных пятніц у прысутнасці П. Чайкоўскага, М. Рымскага-Корсакава, А. Лядава, А. Глазунова і другіх рускіх кампазітараў. Пасля канцэрта П. Чайкоўскі сказаў Андрэеву: «Якая прыгажосць гэтыя балалайкі! Які выключны эфект могуць яны даць у аркестры; па тэмбру гэта незамяніммы інструмент». Першае знаёмства з народным аркестрам Ф. Шаляпіна потым перарасло ў цесную творчую дружбу вялікага артыста з Андрэевым.

З кожным годам расце папулярнасць аркестра ў Расіі і за яе межамі. У Францыі ён заслугоўвае высокую пахвалу Сен-Санса, Маснэ і іншых. Сам В. Андрэеў выбіраецца ганаровым членам французскай Акадэміі мастацтваў.

Але нястомнага прапагандыста рускай народнай музыкі непакоіць пытанне аб распаўсюджванні балалайкі сярод шырокіх мас. Ён звяртаецца да царскага ўрада з просьбай дазволіць правядзенне нядзельных канцэртаў на фабрыках, заводах, стварыць народныя дамы ў вялікіх вёсках. Яго прапанова не мела падтрымкі. Тады ён марыць навучыць ігры на балалайцы салдат Пецярбургскага гарнізона. Гэта новая прапанова доўга разглядалася ў розных інстанцыях. Андрэеў звяртаецца з запытаннем да Льва Талстога: «Ці патрэбна народу песня і ці можа на лепшых узорах гэтай песні, якія перадаюцца балалайкай, развівацца музычны густ народа?»

У адказ Л. Талстой пісаў: «Я думаю, што Вы робіце вельмі добрую справу, стараючыся ўтрымаць у народзе яго старадаўнія цудоўныя песні. Думаю, што і шлях, выбраны Вамі, прывядзе Вас да мэты, і таму жадаю поспеху Вашай справе».

Дазвол быў атрыман. У Пецярбургскім гарнізоне ігрой на балалайцы займалася каля 600 салдат. Салдаты палюбілі свайго вясёлага настаўніка. У манатоннае жыццё царскай казармы прыйшла народная музыка. Паступова аматарскі балалаечны гурток папаўняецца другімі рускімі народнымі інструментамі — домрамі, гуслямі, дудкамі. У 1896 г. гэты гурток ператвараецца ў Вялікарускі аркестр. У Андрэева многа памочнікаў, вучняў, паслядоўнікаў. Аркестр расце колькасна, павышаецца яго майстэрства. Ён паспяхова гастраліруе ў Германіі, Францыі, Амерыцы, у іншых краінах, а таксама дае шмат канцэртаў у гарадах Расіі. Вынікам гэтай дзейнасці было стварэнне вялікай колькасці самадзейных аркестраў на фабрыках і заводах.

В. Андрэеў успрыняў Вялікую Кастрычніцкую рэвалюцыю, бо адчуваў, што яго справа будзе высока ацэнена народам. Ён перайменоўвае свой калектыў у «Першы народны аркестр». Яго слухачамі сталі рабочыя, сяляне, салдаты.

В. Андрэеў пакінуў вялікую музычную спадчыну. Яго творы, асабліва вальсы, гучаць і сёння. Нездарма ў 1911 г. А. Тасканіні назваў яго «рускім Штраусам». Тэарэтычная праца Андрэева «Вялікарускі аркестр і яго значэнне для народа» і зараз мае актуальнае значэнне.

Дзейнасць В. Андрэева паслужыла вялікім прыкладам для стварэння не толькі рускіх народных аркестраў. Яна дала выдатны ўзор для развіцця народна-інструментальнай музыкі многіх народаў Савецкага Саюза. Мы ведаем цудоўныя народныя аркестры Узбекскай ССР, Казахскай ССР, Азербайджана, Арменіі, Грузіі, Літвы і іншых.

У 1957 г. пасля выступленняў Беларускага аркестра «Ленінградская праўда» пісала: «Калі В. Андрэеў стварыў свой першы рускі народны аркестр, мала хто мог меркаваць, што гэта з'явіцца пачаткам цэлага руху ў музычнай культуры. Зараз такія аркестры ёсць амаль ва ўсіх рэспубліках...»

Вялікія традыцыі рускага народнага музычнага мастацтва, энергічная дзейнасць В. Андрэева пасеялі добрае зерне і на ніве Беларусі, якое і зараз дае добрую рунь. У нашай рэспубліцы любяць і цэняць балалайку, домру, у нас існуе многа самадзейных аркестраў, ёсць класы народных інструментаў у музычных школах, вучылішчах, кансерваторыях. Вялікую і плённую работу вядуць педагогі і музыканты Г. Жыхараў, П. Пагоцкі, Н. Прошка і др. Гэтыя калектывы і выканаўцы сваёй дзейнасцю працягваюць традыцыі Андрэева, нясуць музыкальную культуру ў шырокія працоўныя масы.

Пад вялікім уплывам творчасці В. Андрэева з поспехам расквітнела і беларускае народна-інструментальнае мастацтва. Стварэнне метадычных дапаможнікаў, педагагічнага рэпертуару, выданне першай праграмы для класа цымбал для дзіцячых музычных школ, якая зараз друкуецца, дасць магчымасць узняць на вышэйшую ступень развіццё народна-інструментальнай музыкі ў рэспубліцы.

Справа В. Андрэева, вялікага патрыёта нашай Радзімы, расце, развіваецца, робіцца здабыткам многіх савецкіх людзей.

**І. ЖЫНОВІЧ,**  
**народны артыст БССР.**

# СЯБРОЎСКІЯ ЭПІГРАМЫ

**В. ДУБРОЎСКАМУ**

По ініцыятыве і пад кіраўніцтвам В. Дуброўскага ўпершыню прагучалі многія сімфанічныя творы маладых беларускіх кампазітараў.

**З беларускай ліраю**  
**Ён сяброўства мае.**  
**Ён і дырыжыруе,**  
**Ён і благаслаўляе.**

**Г. ВАГНЕРУ**

**Ён першым балетам не надта**  
**праслаўлены,**  
**Другі ж, які пойдзе услед за**  
**былым,**  
**Няхай будзе хутка і добра**  
**пастаўлены,**  
**Ды толькі не будзе, як той,**  
**падстаўным.**

**А. АПАНАСЕНКУ**

**Ездзіць з ансамблем па розных**  
**рэспубліках,**  
**Слава гудзе ў гарадах незнаёмых.**  
**Можа, пара і для роднае публікі**  
**Выступіць дома?**

**М. АЛЯКСЕЕЎ.**



У раённым цэнтры Браславе (Віцебская вобласць) у прыгожым светлым будынку размясцілася сямігадовая музычная школа. Тут 80 юных браслаўцаў авалодваюць тэхнікай ігры на баяне, фартэпіяна і трубе. Вучням створаны ўсе ўмовы для навучання. У гэтым годзе будуць адкрыты класы кларнета і скрыпкі.

**На здымку:** выкладчыца музыкі Любоў Іванаўна **Душко** займаецца з Алай **Шыдлоўскай.**

Фота **Л. Клімава.**

